ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

№ 10(5192)
Чацвер, 25 студзеня 2001 года

*Кошт у розніцу — 47 руб.*

Думка настаўніка

## У чым выяўляецца сіла

***Апошнім часам усё часцей і часцей псіхолагі і педагогі звяртаюцца да праблемы развіццёвага навучання, праблем адоранасці дзяцей, развіцця творчай асобы, да праблемы развіцця творчых магчымасцей. Як навучыць дзіця мысліць творча? Як прывіць любоў да разумовай дзейнасці, пераадолення цяжкасцей, праблем? Як захаваць цікаўнасць дзіцяці і даць ёй магчымасць прарасці ў высокую чуйнасць да праблем, умение бачыць і творча вырашаць іх?***

Асноўным "тэхнічным", сродкам навучання вучняў, развіцця іх творчых здольнасцей па-ранейшаму застаецца мова настаўніка. Прыходзіцца канстатаваць, што за апошні час наша школа стала яшчэ бяднейшай у матэрыяльных адносінах: сталі няспраўнымі старыя прайгравальнікі, дыяпраектары, а новыя сучасныя тэхнічныя сродкі навучання ў школу не паступаюць. У Холхлаўскай сярэдняй школе, дзе я працую, навучанне інфарматыцы вядзецца на старых машынах "Карвет", хоць у свеце спецыялісты-інфарматыкі даўно выкарыстоўваюць у працы машыны наймоўшага пакалення. Можна сказаць, што мы вучым школьнікаў карыстацца сахой, якая адышла ў мінулае. Толькі палепшыўшы матэрыяльнае забеспячэнне школ, можна ўзняць узровень вучэбна-выхаваўчай работы, а значыць і магчымасці развіцця творчага патэнцыялу вучняў.

А хто будзе аспрэчваць тую вялікую ролю, якую адыгрываюць у развіцці творчых здольнасцей вучняў добрыя падручнікі? Пра падручнікі па рускай мове для 5-9 класаў мне даводзілася чуць розныя меркаванні: камусьці яны падабаюцца, нехта ставіцца да іх з'яўлення адмоўна. Мой пункт гледжання — падручнікі прызначаны для настаўнікаў, якія творча працуюць, маюць трывалыя веды ў галіне ўзаемін. Многія педагогі, характарызуючы новыя падручнікі па рускай мове, адзначаюць, што ў іх змяшчаецца мала практыкаванняў. Але ж вучоныя, працуючы над новымі падручнікамі рускай мовы, адабралі вучэбны матэрыял з улікам моўнай сітуацыі.

Добрым дадаткам да падручнікаў з'яўляецца дыдактычны матэрыял, а таксама апорныя канспекты для 5-6 класаў, падрыхтаваныя настаўніцай Красненскай сярэдняй школы Маладзечанскага раёна кандыдатам педагагічных навук Л.І.Строк. Канспекты — добрыя памочнікі ў навучанні вучняў. Яны развіваюць іх памяць, дапамагаюць засвойваць матэрыял і, дарэчы, карыстаюцца вялікай цікавасцю ў вучняў нашай школы.

Не сакрэт, што новыя падручнікі па рускай мове патрабуюць ад настаўніка творчага падыходу. Яны не прызначаны для настаўнікаў-кансерватараў, якія звыклі вучыць па-старому. Маючы сваёй мэтай перш за ўсё развіццё камунікатыўных здольнасцей вучня, падручнікі садзейнічаюць творчаму станаўленню яго асобы.

Акрамя сродкаў навучання важнейшай умовай творчага развіцця вучняў з'яўляецца здароўезберагальнае адукацыйнае асяроддзе. Паводле звестак медыкаў, толькі 10 працэнтаў здароўя чалавека залежыць ад умяшальніцтва ўрачоў і да 90 працэнтаў — ад генатыпу і ладу яго жыцця. Таму, каб вучань развіваўся творча, патрэбны "здаровы дух". Я пераканана, што супрацоўніцтва вучня і настаўніка немагчыма без фундаментальнага ведання апошнім псіхалагічнай навукі. У "Настаўніцкай газеце" карыфей беларускай педагогікі акадэмік І.Ф.Харламаў, на маё вялікае здзіўленне, спрабаваў развянчаць псіхалогію як асобную навуку і яе ролю ў адукацыі. Але, на шчасце, ёсць прафесіяналы высокага класа, інтэлігентныя, карэктныя (я маю на ўвазе найперш загадчыка кафедры псіхалогіі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі У.А.Янчука), якія ўступілі ў дыскусію і змаглі давесці, што псіхалогія — вельмі важная, патрэбная навука ў сістэме адукацыі і што педагогіка ніколі не зможа выконваць тыя функцыі, якія павінна выконваць псіхалогія. Паводле слоў Л.Рожынай, у ЗША больш за ўсё запатрабаваны прафесіі юрыста, урача і псіхолага. Прагматычныя амерыканцы не такія ўжо недалёкія, каб марнаваць грошы на псіхалагічныя паслугі.

Упэўнена: псіхалагічная служба сістэмы адукацыі павінна змяняцца і па колькасных паказчыках, і па якасных. У педагога і ў псіхолага розныя сферы дзейнасці, але накірунак адзін — фарміраванне асобы вучня. Не настаўніку займацца псіхадыягностыкай, псіхакарэкцыяй, эксперыментальнай псіхалогіяй. Для гэтага ў кожнай школе (ад вялікай гарадской да малакамплектнай) павінны быць псіхолагі, якія маглі б на высокім прафесійным узроўні правесці і псіхадыягностыку, і карэкцыйную работу.

Я лічу, што ролю школьнага псіхолага для развіцця творчага патэнцыялу і настаўніка, і вучня недаацэньваць нельга. Канешне, можна павышаць псіхалагічную культуру і іншым шляхам — шляхам самаадукацыі. Цяпер кожны педагог мае магчымасць купіць разнастайную навуковую і навукова-папулярную псіхалагічную літаратуру. Цікавыя выданні серыі "Сам сабе псіхолаг". У даступнай захапляючай форме гэтыя кнігі вучаць, як стаць шчаслівым, пазбавіцца ад канфліктаў, стрэсаў, вучаць любіць сябе і іншых, вырашаць праблемы, якія маюць карані ў далёкім дзяцінстве.

Боязь двойкі, боязь другагодніцтва, боязь пакарання суправаджаюць чалавека вельмі доўга. Каб пазбавіцца ад страхаў, дапамагаюць псіхолагі і псіхалагічная літаратура. Кніга амерыканскага псіхолага Дж.Джампольскага "Любоў перамагае страх" робіць цуды. Яна — моцнадзеючы сродак супраць страху. А кнігі Ю.А.Мерзлякова "Шлях у краіну здароўя", "Шлях да даўгалецця"? Гэта ж наздвычай каштоўныя дапаможнікі пра тое, як захаваць сваё здароўе, як пазбавіцца ад хвароб, як быць шчаслівым. Бо толькі шчаслівы настаўнік можа выхаваць шчаслівага вучня. Сёння ж, на мой погляд, сярод сейбітаў разумнага, добрага, вечнага, мудрага зашмат чэхаўскіх белікавых, "выпрамілаў" (памятаеце Успенскага?). Яны самі не жывуць і іншым не даюць, не кажучы ўжо пра тых, каго выхоўваюць.

Лічу, што настольнай для настаўніка павінна быць кніга П.М.Яршова "Рэжысура як практычная псіхалогія". Яна змяшчае шмат карыснага, таму што настаўнік, як і артыст, працуе на публіку, карыстаецца той жа прыладай працы — словам. Толькі адзін жыве ў жыцці, а другі — на сцэне. Паводле слоў аўтара кнігі, майстэрства настаўніка — гэта яго прафесійная сіла. Яна выяўляецца ў тым ліку і ў творчым спакоі — упэўненасці настаўніка ва ўсім тым, што ён робіць на ўроку.

Выданне П.М.Яршова "Рэжысура як практычная псіхалогія" было настольнай кнігай у Святланы Леанідаўны Рабцавай — аўтара кнігі "Дзеці васьмідзесятых. Дзённік настаўніка". Кніга С.Л.Рабцавай — шчырая размова з чытачом пра цяжкасці і праблемы першых гадоў навучання ў школе, пра сцвярджэнне прынцыпаў гуманістычнай педагогікі. Аўтар робіць акцэнт на агульначалавечыя каштоўнасці, удзяляе ўвагу культуры ўзаемін, творчай дзейнасці вучняў.

Пры чытанні гэтай кнігі ў мяне з'явілася пачуццё радасці, што настаўніца нашай школы Я.Д.Еўдакімава, якая, магчыма, і не чытала гэтай кнігі, развівае творчую актыўнасць сваіх вучняў аналагічна С.Л.Рабцавай. Вучні Яўгеніі Дзмітрыеўны адрозніваюцца ад іншых выпускнікоў пачатковай школы. Па-першае, у іх ніколі не бывае праблем з дысцыплінай. Па-другое, вучні ўмеюць вучыцца, у іх сфарміравана ўменне здабываць веды, яны ведаюць ім цану. Па-трэцяе, яны валодаюць навыкам узаемін.

Каму належыць галоўная роля ў стварэнні спрыяльнага псіхалагічнага клімату ў класе? Канешне ж, настаўніку. Я.Д.Еўдакімава дбае, каб у класе ўсе вучні пачувалі сябе камфортна. Настаўніца падтрымлівае і паляпшае самаацэнку і самапавагу кожнага вучня ў праяўленні творчасці, заахвочвае поспехі і не затрымлівае ўвагу на няўдачах. Памылкі дзіцяці яна разглядае хутчэй як адсутнасць у яго вопыту, а не як падставу для пакарання і асмяяння. Псіхалагічны клімат у класе садзейнічае творчай актыўнасці, у вучняў адсутнічае страх памыліцца. Для развіцця творчага мыслення вучняў Яўгенія Дзмітрыеўна ставіць так званыя "адкрытыя" пытанні, на якія яны знаходзяць некалькі адказаў. Атмасфера ў класе забяспечвае свабоду выяўлення сваёй думкі.

Мне асабліва імпануе тое, што настаўніца фарміруе ў сваіх вучняў уменне слухаць другога, дае магчымасць супаставіць розныя пункты гледжання, дазваляе вучням развіваць сваю творчую актыўнасць ва ўмовах пазітыўнага пазнавальнага канфлікту.

Для арганізацыі ўвагі вучняў Я.Д.Еўдакімава падтрымлівае добры тэмп урока, не дапускае выпадковых "прастояў", улічвае індывідуальны тэмп работы вучняў і асаблівасці навучання двух класаў адначасова. Усе тлумачэнні дае дакладна, коратка і даступна. Яна не траціць часу на пабочныя размовы, хаджэнні па класе і гучныя заўвагі асобным вучням, калі ўвесь клас працуе.

Заслугоўвае ўвагі праца Я.Д.Еўдакімавай над завучваннем вершаў. Гэтую работу яна праводзіць з тымі вучнямі, якія дрэнна запамінаюць верш. Настаўніца лічыць, што лагічнае запамінанне — актыўная дзейнасць чалавека, дзе цэнтральнае месца адводзіцца тром дзеянням: сэнсавай групіроўцы, выдзяленню апорных пунктаў, суаднясенню. Працэс лагічнай перапрацоўкі матэрыялу з'яўляецца тым самым найбольш творчым і істотным працэсам, з дапамогай якога можна пашырыць магчымасці памяці. Ведаючы гэта, Яўгенія Дзмітрыеўна ўносіць ва ўрок элемент гульні. Часта выкарыстоўвае такі матэрыял, які выклікае непасрэдную цікавасць. Сама інтэлектуальная праца над матэрыялам, уласная актыўнасць дзяцей прыводзяць да запамінання яго нават тады, калі не стаіць спецыяльная задача запомніць.

Аналізуючы вопыт настаўнікаў, якія працуюць творча, можна зрабіць выснову: яны выкарыстоўваюць падручнік і метадычны дапаможнік не як догму, а як мадэль, арыенцір. Такія настаўнікі, па сутнасці, уступаюць у творчае супрацоўніцтва з аўтарамі падручніка.

Разам з тым вынікі вучэбна-выхаваўчага працэсу па ўсіх прадметах шмат у чым залежаць ад таго, наколькі ён забяспечаны разнастайнымі сродкамі навучання, а таксама ад майстэрства настаўніка, які гэтыя сродкі выкарыстоўвае. Удасканаленне зместу адукацыі заканамерна патрабуе ўдасканалення форм, метадаў, прыёмаў і сродкаў навучання. А стварэнне сродкаў навучання знаходзіцца ў цеснай сувязі з развіццём тэхнікі, узроўнем педагагічнай і псіхалагічнай думкі, перадавым педагагічным вопытам.

**Яніна ЧАРНЯЎСКАЯ,**
**настаўніца Холхлаўскай сярэдняй школы-сада Маладзечанскага раёна.**

## З вялікай літары

Наталля Сяргееўна Шведава не толькі прыгожая дзяўчына, але яна і вельмі-вельмі добрая. Добрая з вялікай літары, таму што, пакуль здае сесію ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка, без яе выхаванцы з дзіцячага садка № 4 вёскі Навінкі Мінскага раёна вельмі сумуюць. А яна па іх таксама. А паміж кансультацыямі і экзаменамі знайшла "фортачку", каб завітаць у дзіцячы сад. Непадалёку ад яго і напаткаў яе фотааб'ектыў.

**Фота Міколы БУДЧАНІНА.**

Палемічныя нататкі

## Куды коцяцца педагагічныя хвалі?

***Савецкая школа і педагагічная навука мелі хвалепадобны характар развіцця. Ведаць гісторыю педагагічных хваляў неабходна для таго, каб зразумець і асэнсаваць цяперашнюю хвалю і прадугадаць, спрагназаваць будучыя хвалі.***

Першую хвалю з поўным правам можна назваць антыгімназічнай. Яна пачалася пасля рэвалюцыі 1917 года і доўжылася крыху больш за дзесяць гадоў. Пасля рэвалюцыі ўсім было зразумела, што неабходна будаваць новую школу і што яна і па сваім духу, і па змесце, і па форме рашуча павінна адрозніваца ад старой дарэвалюцыйнай школы, гэта значыць гімназіі, якая ўсім надакучыла і ўсім была ненавісная.

Што было ў гімназіі? Адзнакі? Далоў адзнакі! Праграмы? Далоў праграмы! Падручнікі? Далоў і падручнікі! Правільна хадзіць на ўрокі? Далоў!

А ў гэты час тыя, хто знаходзіўся на грэбені антыгімназічнай хвалі, радыкальна настроеныя маладыя савецкія педагогі старанна вывучалі працы класікаў марксізму дзеля таго, каб знайсці адказ на пытанне, якой жа павінна быць новая школа. У выніку знайшлі самыя агульныя адказы: яна павінна быць адзінай, працоўнай, політэхнічнай, школай калектыўнага выхавання. Канкрэтных жа шляхоў рэалізацыі гэтых агульных ідэй класікі, на жаль, не вызначылі. Амаль нічога не гаварылася ў працах класікаў і пра тое, чаму і як патрэбна вучыць падрастаючае пакаленне ў школе эпохі сацыялізму.

Заставалася адно: звярнуцца да вопыту перадавых капіталістычных ці, як цяпер кажуць, цывілізаваных краін. Звярнуліся і знайшлі там Дальтон-план, метад праектаў, вінетку-план і інш.

Было зразумела, што слепа капіраваць буржуазны вопыт нельга, што яго трэба перарабіць, падагнаць пад галоўны прынцып новай школы — прынцып калектыўнага выхавання, што і было зроблена. Да пачатку 30-х гадоў, аднак, стала зразумела, што капіраванне, няхай і не сляпое, замежнага вопыту, станоўчых вынікаў не прыносіць. У школьную справу ўмешваецца ЦК УКП(б) і выдае шэраг пастаноў, якія карэнным чынам змяняюць накірунак развіцця савецкай школы.

З гэтага часу, гэта значыць з пачатку 30-х гадоў, пачынаецца новая дваццацігадовая, самая доўгая хваля — хваля школы акадэмізму, ці акадэмічнай школы. Галоўная задача школы гэтай хвалі — рыхтаваць вучняў да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, паколькі неабходна было дагнаць і перагнаць капіталістычныя краіны па колькасці спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. У канцы 30-х гадоў скасоўваецца працоўнае і політэхнічнае навучанне, якое ўжо не адпавядала галоўнай задачы.

Хваля акадэмічнай школы аказалася вельмі плённай. Паводле звестак ЮНЕСКА, СССР у сярэдзіне 50-х гадоў займаў 3-е месца ў свеце (пасля ЗША і Канады) па такіх паказчыках развіцця грамадскага інтэлекту, як КІМ (каэфіцыент інтэлектуалізацыі моладзі) і КІН (каэфіцыент інтэлектуалізацыі насельніцтва). Магчыма, мы выйшлі б і на першае месца, але гэтаму перашкодзіла новая хваля.

Яна пачынаецца з 1958 года з вядомага закона, ініцыяванага М.С.Хрушчовым і падрыхтаванага АПН СССР, закона "Аб умацаванні сувязі школы з жыццём і аб далейшым развіцці сістэмы адукацыі ў СССР". Відаць, "наверсе" (у ЦК КПСС) вырашылі, што з грамадскім мозгам, гэта значыць колькасцю асоб, арыентаваных пераважна на разумовую працу, у нас усё ў парадку і што надышоў час звязаць школу з фізічнай працай.

Хваля працоўнай школы, звязанай з жыццём, праходзіла бурна. За два-тры гады амаль у кожнай школе былі адкрыты вучэбныя майстэрні, у якіх вучні нешта пілавалі, стругалі, тачылі, свідравалі, не выпрацоўваючы пры гэтым ніякай карыснай прадукцыі. Акрамя гэтага, у сельскіх школах ствараліся вытворчыя вучнёўскія брыгады для працы на калгасных палях і фермах, а ў гарадскіх — вучэбна-вытворчыя камбінаты (ВВК) для авалодання вучнямі асновамі той ці іншай прафесіі, не звязанай з разумовай працай.

Хутка высветлілася, што ў выніку гэтых мерапрыемстваў значна знізілася якасць ведаў вучняў, што настаўнікі вымушаны былі завышаць адзнакі вучням, каб не пакідаць на другі год у класе. Неабходна было знайсці нешта такое, што павысіла б эфектыўнасць вучэбнага працэсу, дало магчымасць кіраваць пазнавальнай дзейнасцю вучняў. Гэта "нешта" знайшлі ў ЗША, і называлася яно праграміраваным навучаннем. Так на хва-

(Працяг на 2-й стар.)

## Паважаныя чытачы!

**Падпісацца на "Настаўніцкую газету" можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў агенцтве "Белсаюздруку". Падпісны кошт на квартал для індывідуальных падпісчыкаў — 1440 рублёў.**

## Прыярытэт усынаўлення

***За апошнія сем гадоў больш як 500 беларускіх дзяцей былі ўсыноўлены іншаземцамі. Пра гэта паведаміла на прэс-канферэнцыі, прысвечанай праблемам матэрыяльна-тэхнічнага і сацыяльна-педагагічнага забеспячэння дашкольных дзіцячых дамоў краіны, галоўны інспектар Галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Галіна Рудзянкова.***

Згодна з палажэннем новага Кодэкса аб шлюбе і сям'і, які дзейнічае з 1 верасня 1999 года, прадугледжваецца судовая працэдура ўсынаўлення як для айчынных, так і для замежных грамадзян. Іншая рэч, што мы не можам ім аддаваць нашых дзяцей, не маючы адпаведных дамоўленасцяў з прымаючым бокам аб супрацоўніцтве і прадстаўленні інфармацыі аб лёсе ўсыноўленага дзіцяці.

— Такія дамоўленасці, — зазначыла Галіна Іванаўна, — існуюць з Германіяй, Даніяй, ЗША, Ізраілем, Ірландыяй, Італіяй і Швецыяй — краінамі, дзе ў свой час знаходзіліся на азадараўленні дзеці-сіроты з Беларусі.

Усынаўленне — гэта даволі складаны працэс, таму што неабходна добра вывучыць сям'ю, якой будзе даверана лёс дзіцяці.

Калі ў сем'ях іншаземцаў жывуць больш за паўтысячы ўсыноўленых дзяцей з Беларусі, то ў айчынных сем'ях усыноўлены 7,8 тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак ва ўзросце да 18 гадоў і 12 тысяч дзяцей жывуць у сем'ях апекуноў.

Паводле слоў Галіны Рудзянковай, прыярытэт аддаецца не міжнароднаму, а нацыянальнаму ўсынаўленню і беларуская дзяржава надае ўсё большую ўвагу такім новым формам уладкавання дзяцей, як прыёмная сям'я і патранажнае выхаванне.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

## Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" стварайся назаўсёды

***26 студзеня спаўняецца 11 гадоў, як Вярхоўным Саветам Беларусі быў прыняты Закон аб мовах і беларускай мове нададзены статус дзяржаўнай мовы суверэннай, незалежнай Рэспублікі Беларусь.***

Як член Камісіі Вярхоўнага Савета па падрыхтоўцы Закона аб мовах, як член рабочай групы, што рыхтавала праект Закона, і Камісіі па распрацоўцы Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моваў у Рэспубліцы Беларусь я коратка спынюся на некаторых пытаннях стварэння згаданага дакумента і яго рэалізацыі. Нагадаю асобныя моманты з таго, як працавала камісія і, у прыватнасці, наша рабочая група, якой было даручана падрыхтаваць праект Закона для абмеркавання яго на Сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Як вядома, доўгі, цяжкі і складаны быў шлях да таго дня, калі вышэйшы орган улады — Вярхоўны Савет нашай рэспублікі — абсалютнай большасцю галасоў 26 студзеня 1990 г. прыняў гэты дакумент вялікай гістарычнай важнасці.

Зазначым, што да 1990 г. амаль усе рэспублікі былога Савецкага Саюза ўжо прынялі Законы аб мовах. Яны менавіта так пачалі замацоўваць юрыдычна сваю незалежнасць, сваю суверэннасць. У нас жа гэта вялікай важнасці нацыянальнае пытанне па пэўных прычынах было пастаўлена на парадак дня пазней.

29 ліпеня 1989 г. Вярхоўным Саветам БССР была ўтворана спецыяльная Камісія па падрыхтоўцы прапаноў аб заканадаўчым урэгуляванні статуса беларускай, рускай і іншых моваў, якімі карыстаецца насельніцтва Беларускай ССР, а больш дакладна — для падрыхтоўкі праекта Закона аб мовах.

Аб высокім узроўні гэтай камісіі сведчыць як колькасны, так і персанальны яе склад. У камісію было ўключана 49 чалавек — гэта людзі розных прафесій і спецыяльнасцяў, розных пасад і званняў. З іх: 16 дэпутатаў Вярхоўнага Савета, 3 акадэмікі, 3 міністры, 6 пісьменнікаў, 4 мовазнаўцы, 3 рэктары ВНУ, 3 старшыні калгасаў, 3 — рабочыя і калгаснікі, некалькі чалавек з органаў адукацыі, рэдактары цэнтральных газет, кіруючыя партыйныя работнікі, адзін военачальнік і інш. Узначаліла камісію дэпутат Вярхоўнага Савета, намеснік старшыні Савета Міністраў БССР Н.М.Мазай, намеснік старшыні камісіі — дэпутат Вярхоўнага Савета, пісьменнік Н.С.Гілевіч.

У сваю чаргу з членаў камісіі была створана рабочая група ў складзе 12 чалавек, у задачы якой уваходзіла падрыхтоўка праекта Закона. Назаву іх прозвішчы: кіраўнік групы — Н.С.Гілевіч, дэпутат Вярхоўнага Савета, пісьменнік; члены групы: А.М.Абрамовіч — загадчык кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права БДУ; М.В.Бірыла — акадэмік-сакратар аддзялення грамадскіх навук АН Беларусі; Вайтовіч Я.К. — міністр культуры БССР; Дзямчук М.І. — дэпутат Вярхоўнага Савета, міністр народнай адукацыі БССР; Краўчанка П.К. — сакратар Мінскага гаркама КП Беларусі; Падлужны А.І. — дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР; Рагойша В.П. — дацэнт кафедры сацыялістычнай культуры Мінскай ВПШ; Садоўскі П.В. — дацэнт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М.Горкага; Сачанка Б.І. — пісьменнік; Смірноў Ю.П. — дэпутат Вярхоўнага Савета, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі; Яўневіч М.С. — загадчык кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М.Горкага.

Дарэчы, заўважу, што з трох членаў моўнай камісіі Вярхоўнага Савета — супрацоўнікаў Мінскага педагагічнага інстытута імя М.Горкага (цяпер Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка) — два ўваходзілі ў склад названай рабочай групы. Нагадаю таксама, што персанальны склад рабочай групы, якая рыхтавала праект Закона аб мовах, змешчаны ў вядомым выданні — "Беларуская мова: Энцыклапедыя" (1994) як вялікая адзнака і высокая ацэнка добрасумленнай працы кожнага члена гэтага калектыву.

Камісія спачатку вызначыла структуру і асноўныя палажэнні будучага закона, пасля гэтага пачалася мэтанакіраваная, напружаная праца рабочай групы. Мне і цяпер з прыемнасцю ўспамінаецца, што рабочая група працавала зладжана, з добрым настроем і натхненнем, як калісь казалі — "без прыганятых". Звычайна мы збіраліся ў Доме літаратара. Працавалі самаадцана. Час няўмольна ляцеў, падганяў рабіць усё ў вызначаны тэрмін. Мне, напрыклад, аднойчы давялося нават прыехаць з санаторыя-прафілакторыя "Іслач", увесь дзень працаваць у рабочай групе, потым вяртацца назад, маючы яшчэ даручэнне на вечар, а то і на ноч. Заданне было выканана.

Праект Закона рабочая група падрыхтавала ў вызначаны тэрмін. У ім было 5 раздзелаў, 35 артыкулаў.

Наступіў самы адказны момант у працы моўнай камісіі — пачалося абмеркаванне падрыхтаванага праекта Закона аб мовах. Абмеркаванне праводзілася не толькі ў моўнай камісіі, але і ў трох пастаянных камісіях Вярхоўнага Савета. Гэтыя камісіі працавалі ў кантакце з моўнай камісіяй і яе рабочай групай: аналізавалі, абагульнялі прапановы і заўвагі аб праекце Закона, якія паступалі ад грамадзян, ад арганізацый і дзяржаўных устаноў і інш.

У кастрычніку 1989 г. законапраект, падпісаны ўсімі членамі рабочай групы, абмяркоўваўся ў зале пасяджэнняў Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Гэта абмеркаванне было бурнае, узнікалі вострыя спрэчкі. Але большасцю галасоў прапанаваны праект быў прызнаны прыгодным, хоць невялікая група ўдзельнікаў абмеркавання не пагаджалася не толькі з асобнымі яго артыкуламі, але і з праектам у цэлым, з ідэяй надання беларускай мове статуса дзяржаўнай мовы.

Пасля стараннай дапрацоўкі з улікам выказаных пры папярэднім абмеркаванні заўваг, прапаноў і пажаданняў праект Закона аб мовах праз некаторы час быў падтрыманы пастаяннымі Камісіямі Вярхоўнага Савета і рэкамендаваны для вынясення яго на ўсенароднае абмеркаванне.

Прэзідыум ВС БССР 6 снежня 1989 г. выдаў пастанову, у якой было запісана:" "Праект Закона Беларускай ССР аб мовах у Беларускай ССР" з улікам заўваг і прапаноў, выказаных на пасяджэнні Прэзідыума, адобрыць і вынесці на народнае абмеркаванне. Апублікаваць указаны законапраект у рэспубліканскіх, абласных, мінскай гарадской газетах 8 снежня 1989 г." Праект быў апублікаваны з указаннем пасля кожнага артыкула тэрміну яго ўвядзення ў дзеянне.

Выканаўчым камітэтам абласных, раённых, гарадскіх, пасялковых і сельскіх Саветаў прапаноўвалася арганізаваць абмеркаванне праекта Закона ў працоўных калектывах, грамадскіх арганізацыях і зрабіць абагульненне прапаноў і заўваг па праекце Закона.

Апошні, 5 пункт гэтай Пастановы патрабаваў ад выканаўчых камітэтаў, Саветаў, ад рэспубліканскіх органаў друку, тэлебачання і радыё прапановы і заўвагі па праекце Закона аб мовах у Беларускай ССР дасылаць у Прэзідыум ВС 15 і 25 снежня 1989 г. і 5, 15 студзеня 1990 г. Гэты дакумент сведчыць, як хутка трэба было рыхтаваць праект Закона аб мовах да абмеркавання яго на сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Даты: 6 снежня — пастанова Прэзідыума ВС, 8 снежня — апублікаванне законапраекта, 15 і 25 снежня — мець заўвагі і прапановы.

Усенароднае абмеркаванне праекта Закона аб мовах фактычна працягвалася да 26 студзеня 1990 г. — дня адкрыцця 14-й сесіі Вярхоўнага Савета.

З дакладам на сесіі Аб праекце Закона Беларускай ССР "Аб мовах у Беларускай ССР" выступіла старшыня моўнай камісіі, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, дэпутат Н.М.Мазай, садаклад пастаянных камісій зрабіў старшыня пастаяннай Камісіі па народнай адукацыі і культуры Вярхоўнага Савета, дэпутат, былы рэктар Мінскага педагагічнага інстытута імя М.Горкага, прафесар А.Ц.Караткевіч.

Як паведаміла дакладчык дэпутат ВС Ніна Мікалаеўна Мазай, у абмеркаванні праекта Закона "Аб мовах у Беларускай ССР", які быў створаны ўпершыню ў гісторыі нашай дзяржавы, прынялі ўдзел больш за 20 тысяч чалавек, абсалютная большасць з якіх выказала-

(Працяг на 2-й стар.)

## Імпульс развіцця — новы статус

***Грамадскую, сапраўдную мудрасць праявілі кіраўнікі Пухавіцкага райвыканкама. На Пухаўшчыне (найперш — у школах раёна) працуе цэлы шэраг грамадскіх музеяў.***

Асаблівай увагай атуліліі пухаўчане музей "Героі і подзвігі" (яго стварыў некалі Заслужаны настаўнік БССР Віктар Рыгоравіч Арлоў) у сярэдняй школе № 3 Мар'інай Горкі і музей партызанскай славы ў Гарэліцкай базавай школе. Гэтыя грамадскія інстытуты асветніцтва сталі філіяламі Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея.

Безумоўна, новы статус надасць школьным музеям новы імпульс развіцця.

**Кастусь ЛЕШНІЦА.**



# Пытанне новага часу



***Нездарма сваё першае пасяджэнне ў новым тысячагоддзі калегія ўпраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама пачала з разгляду пытання "Аб стане і шляхах узмацнення работы аддзелаў адукацыі і педкалектываў па арганізацыі вольнага часу навучэнскай моладзі ва ўстановах адукацыі Гродна". На пасяджэнне былі запрошаны загадчыкі аддзелаў і ўпраўленняў адукацыі вобласці, кіраўнікі навучальных і пазашкольных устаноў горада. Як дапамагчы дзецям і падлеткам у свой вольны час займацца цікавымі для кожнага з іх справамі, як выцягнуць большасць з іх з так званай "вуліцы", даць магчымасць для ўсебаковага развіцця асобы — гэтыя пытанні гучалі на калегіі.***

Яшчэ год таму большасць школ у Гродне зачынялася адразу пасля заканчэння заняткаў, не заўсёды добра працавалі і дзіцячыя пакоі па месцы жыхарства. Сёння ж, як зазначыла ў сваім выступленні галоўны інспектар упраўлення адукацыі Ганна Уладзіміраўна Фінагенава, справа зрушылася ў лепшы бок. У школах і ПТВ горада працуюць шматлікія гурткі, секцыі, клубы па інтарэсах. Дзіцячыя пакоі ўзялі пад сваё крыло раённыя цэнтры пазашкольнай работы: умацавалі іх кадрамі, дапамаглі часткова аднавіць матэрыяльную базу, што значна палепшыла іх працу. Аддзелам адукацыі Кастрычніцкага райвыканкама распрацавана і ажыццяўляецца праграма выхавання, разлічаная да 2004 года. Над аналагічнай праграмай працуюць зараз і ў Ленінскім раёне.

Але ж не толькі пра станоўчае ішла размова. Адзначалася і тое, што мала яшчэ ўвагі надаецца арганізацыі вольнага часу старшакласнікаў. Многія мерапрыемствы, асабліва ў ПТВ, праходзяць на нізкім узроўні. Слабая матэрыяльна-тэхнічная база, цякучасць кадраў сярод педагогаў не спрыяе гэтай добрай справе.





Шмат увагі надаецца арганізацыі вольнага часу ў канікулярны перыяд. Наладжана цеснае супрацоўніцтва з гарадскім Цэнтрам занятасці насельніцтва, што дае магчымасць часова працаўладкоўваць падлеткаў.

Чым сёння заняты ў свой вольны час нашы дзеці — цікавіць не толькі іх бацькоў і настаўнікаў. Ад таго, як сёння вырашаецца гэтае пытанне, залежыць тое, якім стане наша грамадства ў будучым. Таму і абмен думкамі на пасяджэнні быў зацікаўлены і канструктыўны.

**Юрый БОНДАРАЎ.**

НА ЗДЫМКАХ: загадчык упраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Анатольевіч Гаўрон (справа) падчас работы калегіі; праца ў гуртках мяккай цацкі, кройкі і шыцця ў Цэнтры пазашкольнай работы "Прамень"; пакойчык рэабілітацыйнага цэнтра, дзе падлетак можа не толькі атрымаць дапамогу псіхолага, але і правесці некалькі дзён, калі ў сям'і ўзніклі пэўныя непаразуменні з бацькамі.

**Фота аўтара.**

З вопыту

# Крынічны струмень

***Змены ў сучасным выкладанні звязаны перш за ўсё з развіццём творчай ініцыятывы настаўніка ва ўмовах велізарнага аб'ёму інфармацыі, якая праяўляецца ў адборы зместу, выбары тыпу і формы ўрока, пошуках найбольш рацыянальных прыёмаў. Поспех навучання залежыць не толькі ад правільнага вызначэня зместу, метадаў і прыёмаў, але і ад формы іх рэалізацыі. Нетрадыцыйны ўрок — адзін са шляхоў у гэтых пошуках. Такі ўрок выклікае цікавасць у вучняў, павышае якасць засваення матэрыялу, абуджае іх думкі, актуалізуе веды, садзейнічае педагагічнаму супрацоўніцтву з настаўнікам.***

Нетрадыцыйны ўрок — гэта форма ўрока таго ці іншага тыпу, якія склаліся ў дыдактычнай навуцы, таму ён абавязкова павінен упісацца ў сістэму ўрокаў па дасягненні канчатковай мэты.

Выразнай станоўчай асаблівасцю нетрадыцыйнага ўрока з'яўляецца тое, што галоўная роля на ўроку належыць вучням. Побач са звычайнымі формамі дзейнасці вучні выступаюць з інфармацыяй, праводзяць даследаванні, удзельнічаюць у дыскусіях, гульнях, ацэньваюць работу сяброў. Я пераканалася, што вынікі такой дзейнасці ў значнай ступені залежаць ад падрыхтоўчага этапа, таму плану формы і віды работ, распрацоўваю індывідуальныя і групавыя заданні, знаёмлю з літаратурай, кансультую. На самім жа ўроку накіроўваю дзейнасць вучняў, праводжу карэкцыю іх паводзін і дзеянняў, пры неабходнасці ўдзельнічаю ў гутарках, спрэчках, выказваю свае меркаванні (але не навязваю іх), падводжу вынікі работы.

Урокі беларускай мовы і літаратуры вылучаюцца сярод іншых дысцыплін. Яны павінны быць асаблівымі: змястоўнымі, эмацыянальнымі, карыснымі. Ад настаўніка патрабуецца не толькі выдатнае валоданне зместам прадмета, але і ўменне данесці кожную думку так, каб яна не толькі ўзбагаціла інфармацыяй, а і закранула пачуцці дзяцей.

Сваю задачу як настаўніка беларускай літаратуры я вызначыла так: выхаваць творчага, удумлівага чытача, абудзіць цікавасць да твораў літаратуры, а тым самым выхоўваць і нацыянальна свядомую асобу беларуса праз выхаванне любові да нашай памяці, гісторыі мовы. А каб зацікавіць вучняў прадметам, стараюся перакрэсліць мяжу паміж класам і кафедрай, зрабіць вучняў удзельнікамі працэсу здабывання ведаў. А гэта магчыма тады, калі ўзаемаадносіны паміж настаўнікам і вучнямі мяняюцца ў бок супрацоўніцтва, развіваюць думку і душу, калі кожны ўрок становіцца для вучняў сапраўдным святам.

Зрабіць кожны ўрок незвычайным няпроста, вельмі няпроста, але гэта — запаветная мара кожнага настаўніка. Таму нетрадыцыйны ўрок, на мой погляд, — адзін з напрамкаў творчага пошуку, які рэальна можа прывесці да жаданай мэты.

Калі ў кожнай тэме ёсць хаця б адзін-два нетрадыцыйныя ўрокі, гэта ўносіць у выкладанне прадмета крынічны струмень, заахвочвае на праця пошуку непазнанага і нязведанага.

**Алена НЕСЦЯРОВІЧ,**
**настаўніца беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы №35 Магілёва.**

У рэжыме развіцця

# Школа Яўгена Роўды

***Нарацкая сярэдняя школа № 1 — адна з лепшых на Мядзельшчыне. Яе ўзначальвае вядомы ў рэспубліцы матэматык, энтузіяст педагагічнай справы Яўген Мікалаевіч Роўда. "Школай Роўды" называюць Нарацкую сярэднюю школу № 1.***

Народнае вучылішча ў мястэчку Кабыльнік было адкрыта ў 1892 годзе. Да 1939 года яно працавала як польская сямігадовая школа. Пасля 17 верасня 1939 года як беларуская школа. У час Вялікай Айчыннай вайны школа працягвала працаваць да 1943 года. Сучасная Нарацкая сярэдняя школа № 1 аднавіла сваю дзейнасць 1 верасня 1944 года. Спачатку гэта была сямігодка, якая размяшчалася у чатырох прыстасаваных будынках. З 1955 года — дзесяцігодка. У 1960 годзе ўзведзены новы будынак школы.

Такая гісторыя школы. А калі казаць пра мэты і задачы Нарацкай сярэдняй школы № 1, дык яны наступныя: фарміраваць у вучняў культ ведаў, інтэлект, патрэбнасць у вучобе; далучаць да каштоўнасцей агульначалавечай культуры і выхоўваць на гэтай аснове духоўнасць і маральнасць; працягваць работу па адраджэнні нацыянальнай культуры, гісторыі, мовы і традыцый беларускага народа.

За 53 гады свайго існавання школа зрабіла 42 выпускі. Скончыла школу 1670 выпускнікоў. Сярод іх ёсць шмат знакамітасцяў. Напрыклад, у Інстытуце матэматыкі ў Маскве працуе доктар матэматычных навук І.Г.Лысёнак, у Маскоўскім стаматалагічным інстытуце медыцынскіх навук — Н.У.Панкратава. У беларускіх ВНУ выкладчыкамі працуюць І.Л.Папок, К.А.Місуна, У.А.Вярэнька. С.А.Шапэчка — майстар спорту па спартыўнай хадзьбе, Заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь. Аб тым, што школа на працягу многіх гадоў давала глыбокія і трывалыя веды, сведчыць той факт, што выпускнікі паспяхова займаліся ў вышэйшых навучальных установах многіх гарадоў былога Саюза: Масквы, Варонежа, Санкт-Пецярбурга, Адэсы, Омска, Калінінграда, Вільнюса, Рыгі, Львова.

Сёння ў школе займаюцца 466 вучняў, з іх 245 маюць добрыя і выдатныя адзнакі, 40 круглых выдатнікаў, якія атрымліваюць стыпендыю. У школе 42 настаўнікі і выхавацелі, з іх 23 — выпускнікі школы, 4 настаўнікі — з вышэйшай катэгорыяй, 20 — з першай катэгорыяй.

У школе працуюць метадычныя аб'яднанні настаўнікаў пачатковых класаў, класных кіраўнікоў. На базе школы — настаўнікаў рускай і беларускай мовы. Ёсць псіхолаг, педагог-арганізатар. Я.М.Роўда — Сорасаўскі настаўнік.

Мае школа і камп'ютэрны клас на 20 месцаў.

Выніковасць — аснова работы школы. За пяць апошніх гадоў у вышэйшыя навучальныя ўстановы паступаюць ад 25 да 45 працэнтаў выпускнікоў. У 1999 годзе з 14 выпускнікоў 3 атрымалі залатыя, 1 — сярэбраны медалі. Усе яны пацвердзілі свае веды, паступіўшы ў Мінскі дзяржаўны лінгвістычны, Беларускі дзяржаўны эканамічны і Беларускі дзяржаўны універсітэты.

Дзве выпускніцы — В.Находка і В.Маліноўская — сталі студэнткамі лінгвістычнага універсітэта па выніках рэспубліканскай алімпіяды па іспанскай мове. В.Находка атрымала заахвочвальную прэмію з фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі.

У школе створаны 32 курсы па выбары і факультатывы для ўзбагачэння, паглыблення ведаў і пашырэння кругагляду вучняў. 10"Б" клас — хіміка-біялагічны профіль, 11"Б" — прыродазнаўча-матэматычны профіль. Працуе 7 гурткоў, у якіх займаецца 105 вучняў, у хоры — 40 вучняў, ёсць 5 спартыўных секцый. У музычнай школе займаюцца 38 школьнікаў.

Каманда КВЗ "Нарачанка" заняла трэцяе месца ў Міжнародным КВЗ "Брацiна смеху-97" і ўступіла ў Рэспубліканскі клуб КВЗ.

Адной з асноўных задач школы з'яўляецца аздараўленне вучняў. У школе працуе спецыяльная медыцынская група для 1 — 11 класаў. Адзін раз у год вучні праходзяць паглыблены медыцынскі агляд фізічнай падрыхтоўкі. Праводзяцца спартыўна-аздараўленчыя мерапрыемствы: Дні здароўя, Дні бегуна, кросы, розныя спаборніцтвы на першынство школы. Традыцыйным святам стаў турысцкі злёт, які праводзіцца ў маі. Каманда школьнікаў удзельнічае ў раённых і абласных турысцкіх злётах і займае прызавыя месцы.

Яўген Мікалаевіч Роўда гаворыць: "Наша школа працуе ў рэжыме развіцця. Педагогі, вучні, бацькі — адна сям'я. Мабыць, таму ў нас усё ладзіцца, у школу ўсе імкнуцца, як у родны дом, і тут нам усім добра...".

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**метадыст Мінскага абласнога ІПК.**

# Раённая "Настаўніцкая"

***Ідэя выпускаць у раённай слаўгарадскай газеце старонку, якая б была карыснай не толькі вузкаму педагагічнаму колу, а ўсім тым, хто сёння фарміруе грамадства, хто дбае за наша будучае, належыць загадчыку раённага аддзела адукацыі В.А.Новікаву.***

— Бываючы ў школах на розных семінарах, творчых справаздачах, — гаворыць Віктар Андрэевіч, — я прыйшоў да высновы, што ў нашым раёне нямала настаўнікаў-наватараў, якія, нягледзячы на цяжкае эканамічнае становішча, працуюць з творчым пад'ёмам, шукаюць больш эфектыўныя метады і прыёмы навучання і выхавання. Дык чаму іх вопыт работы павінны быць толькі вядомы вузкаму колу людзей?

Першы выпуск "Педагагічнага весніка" ў раённай газеце "Ленінскае слова" выйшаў у сакавіку 2000 года. У ім расказвалася пра ролю і работу метадычных аб'яднанняў, пра семінар-нараду і пра настаўнікаў, якія працуюць па новых педагагічных тэхналогіях. У свет выйшла ўжо сем "Педагагічных веснікаў".

**Валянціна ЯЗЕРСКАЯ.**

Буйным планам

# Моладзь у пераменлівым грамадстве

***Напрыканцы мінулага года апублікаваны фундаментальны рэгіянальны маніторынгавы даклад "Моладзь у пераменлівым грамадстве", падрыхтаваны Дзіцячым фондам ААН (ЮНІСЕФ) у рамках праекта MONEE даследчага цэнтра ЮНІСЕФ. Ён прысвечаны пакаленню, чыё ўступленне ў жыццё прыйшлося на пераходны перыяд. Гэта 65 мільёнаў маладых людзей ва ўзросце 15 — 24 гадоў, якія жывуць у 27 краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і ў краінах Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Матэрыялы даклада прадстаўлены ў шасці главах.***

У першай — "Моладзь у пераходны перыяд" — прыведзены факты аб ключавых эканамічных, сацыяльных і дэмаграфічных працэсах, што дапамагаюць глыбей зразумець жыццё пакалення пераходнага перыяду. Выяўлены істотныя змены ў розных сферах жыцця маладых людзей (напрыклад, у пытаннях стварэння сям'і), што дапаможа пры стварэнні шырокага кола мер дзяржаўнай палітыкі. Тэндэнцыя да скарачэння колькасці шлюбаў ці заключэння шлюбаў у больш познім узросце, а таксама блізкія да яе тэндэнцыі, звязаныя з пачаткам працоўнай дзейнасці, указваюць на тое, што пераход моладзі да дарослага жыцця становіцца больш працяглым і складаным. Рашэнні, якія маладыя людзі прымаюць сёння, будуць мець важныя наступствы не толькі для іх уласнага жыцця, але і для лёсу іх дзяцей, грамадства ўвогуле.

Глава 2 пад назвай "Расці здаровымі" прысвечана праблемам здароўя моладзі, у тым ліку выбару ладу жыцця, кароткатэрміновых і доўгатэрміновых наступстваў гэтага выбару. Даныя сведчаць пра тое, што моладзь рэгіёна адчувае сябе горш і вядзе шкодны для здароўя лад жыцця часцей, чым да пераходнага перыяду.

Усё больш маладых людзей у рэгіёне з'яўляюцца ВІЧ-інфіцыраванымі. Усяго, па стану на канец 1999 года, колькасць ВІЧ-інфіцыраваных склала 360 тыс. чалавек, і гэтая лічба працягвае імкліва павялічвацца. Асноўныя ачагі эпідэміі знаходзяцца на Украіне і ў Расіі. На Беларусі дзве трэці ўсіх выяўленых ВІЧ-інфіцыраваных не маюць і 25 гадоў.

У 1998 годзе ў краінах рэгіёна зарэгістравана 0,5 млн. новых выпадкаў захворвання сіфілісам, прычым каля 40 тыс.— сярод юнакоў і дзяўчат ва ўзросце 15 — 17 гадоў і 200 тыс. — сярод маладых людзей ва ўзросце 18 — 24 гадоў, 3 тыс. выпадкаў захворванняў выяўлены сярод падлеткаў ва ўзросце 10 — 14 гадоў.

Павысіўся паказчык самагубстваў. Асабліва высокі ўзровень самагубстваў сярод асоб мужчынскага полу ў Славеніі, Эстоніі, Латвіі, Літве, Расіі, Украіне. На Беларусі і ў Туркменіі, дзе ў 1989 годзе ўзровень самагубстваў быў адносна нізкім, гэты паказчык павялічыўся больш чым у два разы.

Аднак ёсць сведчанні і таго, што маладыя людзі пачынаюць усведамляць перавагі здаровага ладу жыцця.

Патрэбна адзначыць неабходнасць рэалізацыі новых падыходаў да праблем здароўя моладзі. Палітыку ў галіне аховы здароўя неабходна праводзіць шляхам ажыццяўлення шырокамаштабных і мэтавых праграм.

У главе 3 "Школьныя гады" разглядаюцца змены ў сістэмах адукацыі рэгіёна: аналізуюцца тэндэнцыі ўдзелу моладзі ў адукацыйным працэсе на ўзроўні поўнай сярэдняй і вышэйшай адукацыі, даецца кароткі агляд уплыву розных фактараў на каэфіцыент ахопу адукацыяй і г.д.

Каэфіцыент ахопу адукацыяй, які складае 41 працэнт сярод моладзі рэгіёна ва ўзросце 15 — 24 гадоў, значна ніжэйшы за адпаведны паказчык па еўрапейскіх краінах (58 працэнтаў). На Беларусі вучыцца 45 працэнтаў насельніцтва ва ўзросце 15 — 24 гадоў. У цэлым з 23 краін удзел моладзі ў агульнаадукацыйных праграмах і праграмах прафесійнай падрыхтоўкі скараціўся ў 14 краінах, у тым ліку ў Расіі, Беларусі, Украіне, Малдове і інш.

Не менш важныя і якасныя аспекты адукацыі. Школа не толькі адыгрывае відавочную ролю ў навучанні, але і з'яўляецца асноўным сацыяльным асяроддзем, у якім адбываецца развіццё асобы. Значную частку дня маладыя людзі праводзяць у школе, і ўжо па адной гэтай прычыне школьнае асяроддзе павінна быць спрыяльным, стымулюючым, павінна захоўваць здароўе вучняў. Падкрэсліваецца неабходнасць пераадолення аўтарытарнага стылю выкладання, значэнне ўкаранення тэхналогій навучання, якія садзейнічаюць фарміраванню крытычнага мыслення, камунікатыўных уменняў.

У главе "Працоўная дзейнасць" аналізуецца пытанне адаптацыі моладзі да ўмоў рынку працы. З 65 млн. маладых людзей ва ўзросце 15 — 24 гадоў, якія жывуць у 27 краінах рэгіёна, у 1998 годзе каля 26 млн. (41 працэнт) вучыліся ў розных навучальных установах; 21 млн. (32 працэнты) працавалі і 18 млн. (28 працэнтаў) не працавалі і не вучыліся.

У 1998 годзе доля беспрацоўных сярод моладзі ў сярэднім складала 30 працэнтаў у 18 краінах пераходнага перыяду, па якіх ёсць адпаведныя звесткі. Гэта на 15 працэнтаў вышэй за агульны ўзровень беспрацоўя і на 8 працэнтаў вышэй за ўзровень беспрацоўя сярод моладзі ў краінах ЕС. На Беларусі зарэгістраваныя беспрацоўныя ва ўзросце 15 — 24 гадоў у 1998 годзе складалі 35,2 працэнта ад агульнай колькасці беспрацоўных у сярэднім за год.

З пачаткам пераходнага перыяду для моладзі адкрыліся новыя магчымасці ў сферы працаўладкавання, але пры гэтым шлях ад школы да працоўнага месца стаў у многіх адносінах больш складаным. Найбольш карыснымі для маладых людзей, якія ўступаюць у працоўнае жыццё пасля заканчэння школы, могуць стаць праграмы прафесійнай падрыхтоўкі, а таксама праграмы аказання дапамогі тым, хто ўпершыню ідзе на працу.

У частцы "Маладыя людзі ў канфлікце з законам" разглядаюцца праблемы канкрэтнай групы моладзі павышанай рызыкі, а менавіта тых, якія знаходзяцца ў канфлікце з законам. Выклікае заклапочанасць павышэнне ўзроўню злачыннасці. У канцы 90-х гадоў паказчык забойстваў, учыненых непаўналетнімі, перавысіў 20 на 100 тыс. адпаведнай групы мужчынскага насельніцтва на Беларусі, у Казахстане, Эстоніі, Літве, што ў тры разы больш, чым у Цэнтральнай Еўропе.

Ёсць сведчанні новых трывожных тэндэнцый: адносна вялікая колькасць юных правапарушальнікаў (якім няма яшчэ 14 гадоў), павелічэнне долі дзяўчынак сярод маладых правапарушальнікаў і з'яўленне такіх новых відаў правапарушэнняў, як злачынствы, звязаныя з наркотыкамі, якія практычна адсутнічалі да пераходнага перыяду.

У главе 6 — "Маладыя грамадзяне" — расказваецца пра тое, як моладзь у краінах рэгіёна выкарыстоўвае свае правы і рэалізуе свае магчымасці ў дачыненні да ўдзелу ў пераўтварэнні грамадства. Так, на Беларусі мелі намер удзельнічаць у галасаванні (1995 — 1997 гг.) 38 працэнтаў маладых людзей ва ўзросце 18 — 24 гадоў і 40 працэнтаў, якім няма 24 гадоў; у Расіі адпаведна 68 і 69 працэнтаў; на Украіне — 30 і 35 працэнтаў; у Польшчы — 62 і 70 працэнтаў.

Моладзь Беларусі з'яўляецца састаўной часткай міжнароднай маладзёжнай супольнасці, але разам з тым у яе свая, унікальная, гісторыя, сваё цяперашняе і будучае.

Згодна з вывадамі, што пададзены ў дакладзе, маладыя людзі рэгіёна:

- у большай ступені падтрымліваюць рынычныя і дэмакратычныя рэформы, чым людзі старэйшага пакалення, але менш удзельнічаюць у выбарах;
- цікавяцца грамадскім і палітычным жыццём у сваіх краінах, але настроены крытычна і нават скептычна ў адносінах да дзейнасці новых дэмакратычных інстытутаў;
- падвержаны вялікай рызыцы ў галіне рэпрадуктыўнага і сексуальнага здароўя, у тым ліку небяспецы заражэння ВІЧ/СНІДам, ва ўмовах абмежаванага доступу да неабходнай інфармацыі і медыцынскіх паслуг;
- нярэдка праяўляюць цярпімае стаўленне да проціпраўных дзеянняў і часцей уступаюць у канфлікт з законам, чым іх равеснікі ў дарэформенны перыяд;
- надаюць большае значэнне адукацыі, чым іх равеснікі ў дарэформенны перыяд, але, як правіла, пачынаюць вучыцца пазней, кідаюць школу значна часцей;
- высока цэняць сям'ю, але жэняцца і абзаводзяцца дзецьмі значна радзей, чым людзі іх узросту ў дарэформенны перыяд;
- праяўляюць гібкасць і вынаходлівасць у дасягненні матэрыяльнага дабрабыту, але пры гэтым паказчыкі беспрацоўя ў іх значна вышэйшыя, чым у людзей старэйшага пакалення.

У дакладзе прапануюцца меры, якія забяспечваюць эфектыўнасць маладзёжнай палітыкі: прызнаць моладзь асобнай групай насельніцтва са сваімі спецыфічнымі патрэбнасцямі і магчымасцямі, абумоўленымі фарміраваннем асобы; распачаць змястоўны дыялог з моладдзю па пытаннях, што датычаць яе жыцця; у большай ступені ўлічваць ролю псіхасацыяльных фактараў у развіцці моладзі; развіваць міжведамасныя падыходы да вырашэння такіх праблем, як ахова здароўя і працаўладкаванне моладзі; дабівацца таго, каб маладыя людзі ўспрымаліся як паўнапраўныя партнёры.

**Ірына МЕЛЬНІЧУК,**
**дацэнт кафедры педагогікі пачатковага навучання і сацыяльнай педагогікі Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта.**

У нашых суседзяў

# Страсці вакол правапісу

***Тым, хто мае доступ да Інтэрнета, вядома (а каму не — раскажам) пра дыскусію, якую вядуць праз Інтэрнет расіяне, якіх хвалюе лёс рускай мовы і рускай культуры. Многія з іх у роспачы. Рэч вось у чым: у краіне ходзяць чуткі, што рыхтуецца арфаграфічная рэформа. Многія лічаць, што руская мова ў кроку ад канчатковай гібелі. І ва ўсім гэтым, маўляў, вінаваты вучоныя-моваведы.***

Увогуле ж пакуль яшчэ нічога не вырашана: пакуль ёсць толькі падрыхтаваны арфаграфічны праект, які будзе абмяркоўваць Арфаграфічная камісія пры Аддзяленні літаратуры і мовы Расійскай Акадэміі навук.

На справе адбываецца наступнае: сёння ў Расіі асноўным дакументам, які рэгламентуе рускі правапіс, з'яўляюцца прынятыя ў 1956 годзе "Правілы рускай арфаграфіі і пунктуацыі". У свой час яны адыгралі важную ролю ва ўпарадкаванні нормаў правапісу. Аднак першапачаткова ў іх былі недасканаласці. А з цягам часу яны моцна састарэлі.

Лінгвісты сектара арфаграфіі і арфаэпіі Інстытута рускай мовы імя В.В.Вінаградава РАН у апошнія гады працавалі над новым "Зводам правілаў". Працай кіраваў вучоны У.У.Лапацін. Тры задачы ставілі перад сабой вучоныя. Па-першае, наблізіць правіла да сучаснасці, улічыць моўныя змены і арфаграфічную практыку. Так, напрыклад, у старым зводзе адсутнічае правіла, якое рэгулюе напісанне такіх прыставак, як *гипер, пост, супер* і г.д. у выніку чаго сталі з'яўляцца камічныя напісанні, такія словы, як, напрыклад, постельцинский, такіх пачаткаў кампанентаў слоў як *аудио, видео, диско, ретро, мини, медиа* і г.д.

Словам, вучоныя моваведы прапануюць, не мяняючы асноўных прынцыпаў і нормаў, скарэкціраваць асобныя нелагічныя правілы і ліквідаваць некаторыя выключэнні.

У дыскусіі ёсць аргументы як "за", так і "супраць" змяненняў правапісу. Рэфарматары бачаць у арфаграфіі інструмент і хочуць зрабіць яе простай і даступнай. Кансерватары, якія ў кожнай літары бачаць у першую чаргу элемент культуры, увогуле не хочуць нічога мяняць. Яны гавораць пра традыцыі, пра пераемнасць, пра тое, што творы Пушкіна без ероў і ятей не будуць творамі Пушкіна. Настаўнікі звычайна за рэформу, пісьменнікі — супраць.

Так, адна з прапаноў, якія ўносяць некаторыя настаўнікі, аднадумцы рэфарматараў — спрасціць правіла напісання слоў з *пол*. Зараз мы пішам праз дэфіску: пол-лимона, пол-апельсина, але полмандарина. Які сэнс у гэтым супрацьпастаўленні?

Адзін раздзел "Правапісанне дзеясловаў", лічаць многія, можа прывесці ў адчай любога школьніка. Чым прасцей і лагічней правіла, чым менш з яго выключэнняў, тым лягчэй такому правілу навучыць вучняў. А калі фармулёўка правіла займае некалькі старонак падручніка — гэта ўжо не правіла, а здзек.

"Падумайце пра школьнікаў!" — ёсць такі заклік у Інтэрнеце. Пэўна, гэта голас школьніка. Навошта правілы, ад якіх вучні пакутуюць?

Многія лічаць, што спрашчэнне арфаграфіі дало б магчымасць на ўроках рускай мовы болей часу ўдзяляць самой мове — правільнаму выкарыстанню слоў, пісьмовай будове размовы, уменню звязна выкладаць свае думкі, адным словам, культуры мовы.

Безумоўна, адным спрашчэннем нормаў правапісу справы не паправіш, справядліва сцвярджаюць многія ўдзельнікі дыскусіі. У першую чаргу неабходна палепшыць выкладанне рускай мовы ў школах, у прыватнасці, увесці дастатковую колькасць гадзін на гэты прадмет у старшых класах.

**Святлана БЕНЬ.**

